СВАБОДА

№20 19 траўня 1995 г.

Кошт 300 рублёў



# 14 траўня Беларусь прайграла Расеі і Савецкаму Саюзу

Былі прагнозы, што з 206-ці выстаўленых блокам дэмакратычных сілаў кандыдатаў у другі тур пройдзе мінімум 50 чалавек, а максімум — удвая болей. Прайшло 47. І тое, што прайшло меней за мінімальны мінімум, — сьведчаньне нявыкананай задачы (прычыны невыкананьня вымагаюць асобнай гаворкі). Мы ня мелі права разьлічваць на джэнтэльмэнскія паводзіны Лукашэнкі і ягонай каманды, чакаць, што будзе свабода агітацыі, свабода інфармацыі, сапраўды роўныя магчымасьці. Нас прымусілі дзейнічаць ва ўмовах іхных правілаў, г.зн. закону джунгляў. Мы, вядома, далі сваю ацэнку сітуацыі, канстатавалі антыдэмакратычнасьць умоваў, у якіх адбываюцца выбары, але мы не перанялі палітычнай ініцыятывы.

Праціўнік усё тактычна прадумаў. Напачатку зманапалізаваў сродкі масавай інфармацыі (што дазволіла трактаваць любую падзею па-ягонаму). Правёў псіхалагічную атаку праз тэлевізію. Змабілізаваў пажылую частку электарату настальгіяй па камуністычных часах. Маладыя ж, як павялося, не прыйшлі галасаваць — і такім чынам аддалі лёс сваёй дзяржавы ў рукі тых, хто жыве ў безнадзейна састарэлай сыстэме каштоўнасьцяў.

Мы не прызнаем законнасьці рэфэрэндуму і дэмакратычнасьці выбараў. Але мусім канстатаваць: на рэфэрэндуме і на выбарах **Беларусь прайграла Расеі як такой і Расеі ў абліччы Савецкага Саюза**. Прычым бальшыня народу назірала за змаганьнем пасіўна або была на чужым баку.

А цяпер канкрэтна. Зьмянілася эпоха, мы адкінутыя назад, няма больш спадзяваньняў, што сам факт незалежнасьці ўратуе нас, нашую традыцыю, мову, этнас, што ён гарантуе пэрспэктыву для нашай суверэннай дзяржавы. Вярнуўся стан 1989 года, толькі з папраўкай на грамадзкую пасіўнасьць і зьняверанасьць. Тут важна не паддацца "ліквидаторству" і "отзовизму". Дэпутацкі статус — гэта легальная трыбуна, гэта значна большыя магчымасьці палітычнай працы. Украінскі Рух удзельнічаў і ў другім, і ў наступных этапах іхных выбараў, якія пры першым заходзе не адбыліся з прычыны адсутнасьці кворуму. І такі "выцягнуў" некалькі акругаў. Дык жа і нам нельга ігнараваць любых шанцаў на посьпех у выбарах. З 47 кандыдатаў дэмакратычнага блоку, якія прайшлі ў другі тур, 22 ідуць па Менску, дзе прагаласавала сярэдне 52% выбаршчыкаў. Затое з 170 камуністаў ды іншых левых ці вэртыкалістаў бальшыня ідзе ў сельскіх акругах, дзе галасавала значна больш народу — і традыцыйна, і таму, што на выходныя нікуды не зьяжджалі, і дзякуючы славутаму "яшчыку", зь якім падворна абыходзілі аднавяскоўцаў людзі з камісіяў. Гэты самы "яшчык" пойдзе ў ход і 28 траўня: правінцыя кворум дасьць. У той жа час другі тур у Менску ці іншых гарадох будуць правальваць, што зрабіць вельмі лёгка: надзвычай рэдка на паўторнае галасаваньне прыходзіць гэтульки сама народу, колькі на першае. А тут у дадатак ані рэфэрэндуму няма, ані прэзыдэнтавых заклікаў гэтым разам ня будзе.

Таму павінна быць змаганьне за акругі, дзе ідуць нашыя кандыдаты. Шанцы "выцягнуць" кворум невялікія, але яны ёсьць — пры ўмове канцэнтрацыі намаганьняў на тым, каб выбаршчыкі прыйшлі. Там, дзе ідуць толькі антыбеларускія, камуністычныя кандыдаты, павінен быць жорсткі кантроль за колькасьцю выбаршчыкаў, каб не дапусьціць штучнага кворуму. У акругах, дзе ішлі нашыя кандыдаты, але выбары не адбыліся, трэба разьлічваць на працяглую працу, балазе папраўлены закон аб выбарах дазваляе вылучацца ў такіх акругах тым самым людзям.

Сярод 47 засталых блокавых кандыдатаў бальшыня — ад Народнага Фронту, 9 чалавек ад БСДГ, два ад БХДП. Сялянская партыя парушыла блокавае пагадненьне, павылучаўшы кандыдатаў насуперак узгодненым, але не правяла ніводнага. Як бы ні было, у гэтых цяжкіх умовах Народны Фронт як адзіная рэальная сіла, здольная супрацьстаяць разбурэньню, мусіць выявіць дынамізм, здольнасьць адаптавацца да неспрыяльных умоваў, мадыфікаваць нацыянальна-дзяржаўную ідэю, каб згуртаваць вакол яе бальшыню тых, хто за дзяржаўную незалежнасьць краіны, за дэмакратыю і рэформы.

Вярхоўны Савет, хутчэй за ўсё, у выніку другога туру галасаваньня будзе выбраны. Гэта будзе камуністычны і "вэртыкальны", прарасейскі і антыбеларускі орган у значна большай ступені, чым цяперашні. Будзем разьлічваць на яго нядоўгі век і працаваць дзеля будучыні.

**Вінцук ВЯЧОРКА**



## Засталося выбраць астатніх...



Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Рэдакцыйная Рада

Заснавальнік Павал Жук

Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

## Падпіска — гэта гарантыя

**Іншага шляху рэгулярна атрымліваць СВАБОДУ можа ня быць**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газэту 63887

СВАБОДА

Колькасьць камплектаў

На 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літэр

на газэту 63887

СВАБОДА

| Кошт | падпіскі ____ руб. ____ кап. | Колькасьць |
|---|---|---|
| | пераадрас. ____ руб. ____ кап. | камплектаў |

На 1995 г. па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

**У другой палове года газэта СВАБОДА будзе выходзіць 2 разы на тыдзень.**

**Падпісны кошт у Менску: на адзін месяц — 7 200 руб., на 3 месяцы — 21 600 руб.**

**На рэспубліку: на месяц — 4 500 руб., на квартал — 13 500 руб.**

# Ну, умудрыліся!

**У Цэнтральнай і Усходняй выбарчых акругах Віцебска вынікі выбараў могуць быць ануляваныя.**

Рэч у тым, што выбарчыя камісіі пераблыталі паміж сабой бюлетэні. На працягу першых шасьці гадзінаў выбаршчыкі галасавалі зусім не за тых кандыдатаў, якія сапраўды балатаваліся па гэтых акругах. І толькі амаль апоўдні адна жанчына пачала гучна абурацца, калі ў бюлетэні не знайшла прозьвішча кандыдата, за якога прыйшла галасаваць. Пасьля гэтага галасаваньне спынілі і ўчасткі памяняліся бюлетэнямі. Але ж на той момант у акругах ужо прагаласавала амаль па 300 чалавек.

Дазнаўшыся пра гэтую блытаніну, некаторыя кандыдаты зьвярнуліся ў Цэнтральную выбарчую камісію з заявай аб ануляваньні вынікаў выбараў.

**Яўген АЛАДКА**

# Прагаласавалі. А што далей?

### Зянон ПАЗЬНЯК:

Папярэднія зьвесткі, атрыманыя намі, сьведчаць, што ў правінцыі і на вёсцы выбары і галасаваньне па пытаньнях рэфэрэндуму сфальсіфікаваныя. Тут намэнклатура, "вэртыкальныя" камуністы, старшыні калгасаў усё трымалі ў сваіх руках. Афіцыйных назіральнікаў ад БНФ сілаю (выкарыстоўваючы міліцыю) не дапускалі кантраляваць галасаваньне. З самай раніцы члены выбарчых камісіяў разьехаліся з урнамі па вёсках. У прывезеных урнах бюлетэняў часам было больш, чым у стацыянарных на ўчастках. Характэрна, што калі на ўчастках у бюлетэнях было шмат памылак, то ў прывезеных усё было правільна. Тайнага галасаваньня практычна не было. На выбары амаль паўсюдна не прыйшло ў сапраўднасьці і паловы выбаршчыкаў. Колькасьць набралася за кошт фальшывых бюлетэняў, закінутых у "выязныя" урны.

Масавым парушэньнем было таксама галасаваньне за некалькіх асобаў; зафіксаваныя падказкі і агітацыя на ўчастках з боку намэнклатуры.

У Менску, дзе кантроль быў лепш арганізаваны, у 9 акругах выбары не адбыліся. У астатніх прыйшло 52% выбаршчыкаў. Тут ніводнае з 4-х пытаньняў рэфэрэндуму не набрала больш 40% галасоў ад сьпісачнай колькасьці выбаршчыкаў.

Аднак самае галоўнае парушэньне заключалася ў тым, што галасаваньне па рэфэрэндуме адбывалася ва ўмовах жорсткай манаполіі і кантролю над сродкамі масавай інфармацыі з боку прэзідэнта і ягонай групы. Насельніцтва чула толькі афіцыёзную інфармацыю, агітацыю і прапаганду гэтай групы. Людзі былі дэзінфармаваныя і пазбаўленыя магчымасьці выбару. Парушаныя Канстытуцыя, законы і правы чалавека. Усё гэта ставіць пад сумнеў і вынікі, і легітымнасьць галасаваньня па пытаньнях рэфэрэндуму.

Мяркую, што любы нармальны ненамэнклатурны парламант вернецца да гэтага рэфэрэндума, да ўсіх парушэньняў, зробленых з самага пачатку. Нагадаю, што пытаньні былі вынесеныя на рэфэрэндум насуперак Канстытуцыі і закону аб рэфэрэндуме. А пасьля таго, як 11 красавіка яны былі праваленыя ў выніку галасаваньня ў Вярхоўным Савеце, прэзідэнт увёў у будынак парламанту ўзброеныя войскі, якія фізічна распраўіліся з дэпутатамі Апазіцыі БНФ. Пад націскам путчыстаў і з парушэньнем закону пытаньні рэфэрэндуму былі перагаласаваныя.

Першы тур выбараў і галасаваньне па рэфэрэндуме выразна паказалі, што аўтарытарны захоп улады (дакладней, дзяржаўны пераварот), распачаты пракамуністычным прэзідэнцкім путчам 12 красавіка 1995 года, працягваецца. Гэтыя людзі растапталі законы, мараль і дамагаюцца сваіх мэтаў напралом, любымі сродкамі.

Тут, як бачым, узьнікае шмат пытаньняў, зьвязаных з крымінальным кодэксам. Адносна сутнасьці працэсаў мушу заўважыць, што яны не былі б такімі небясьпечнымі, калі б выяўлялі толькі мэты і падзеі ўнутранай палітыкі. Тое ж, што адбываецца ў Беларусі, — гэта праява вонкавай (у значнай ступені таемнай) палітыкі імпэрскіх колаў Расеі. Па сутнасьці супраць Беларусі пасьпяхова вядзецца інтэнсіўная халодная вайна. Вайна з асьлепленым грамадзтвам. А на вайне як на вайне. Якія там правы, якія законы, якая мараль! Мы перажываем адзін з пэрыядаў гэтай вайны.

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ:
### Гэта жудасна, але ненадоўга

У інтэрвію карэспандэнту СВАБОДЫ Станіслаў Шушкевіч ацаніў вынікі рэфэрэндуму як "жудасныя". На думку экс-сьпікера, "яны будуць мець цяжкія наступствы для Беларусі, для станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці, для адраджэньня беларускасьці і праўды беларускай гісторыі. Зьнявечаны, скалечаны камуністычным часам люд не заўсёды разумеў, што робіць".

Якімі ж могуць быць цяпер дзеяньні прэзідэнцкай адміністрацыі? С.Шушкевіч лічыць, што "адміністрацыя няздольная зрабіць што-небудзь у эканоміцы. Гэтая каманда не адукаваная ні ў гісторыі, ні ў эканоміцы. Яна ня ведае што рабіць і дзейнічае бессістэмна, таму няздольная стрымаць спад вытворчасьці. Паляпшэньня я не чакаю".

Станіслаў Шушкевіч лічыць, што ў цяперашняй палітычнай сітуацыі "дэмакратам трэба быць разумнейшымі. Многія, хто называе сябе дэмакратам, маюць вельмі своеасаблівае ўяўленьне аб дэмакратызме. Не хацеў бы ў цяжкі момант рабіць заўвагі ў бок БНФ, але можа і Фронт гэта прымусіць задумацца над тым, што ён вельмі часта дзейнічаў неразумна. Я думаю, дэмакратыя павінна прааналізаваць, што адбылося. Хопіць цапацца паміж сабою, трэба глядзець, дзе галоўныя цяжкасьці дэмакратыі".

Гаворачы пра зьмену сімволікі, С.Шушкевіч адзначыў: "Мы жылі 75 гадоў пад савецкай сімволікай, пражывем яшчэ. Мы перажылі рэфэрэндум аб захаваньні Саюзу, перажывем і гэты. А вынікі будуць тыя самыя. У рэшце рэшт сьвядомасьць людзкая падымецца. Расьце новае пакаленьне, якое знойдзе праўду гісторыі і крыніцы, дзе яе вывучыць і зразумець. Таму, я лічу, што гэта ненадоўга".

### Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:

Тое, што парламант ня будзе выбраны зь першага разу, — гэта было відавочна. Але цяпер цяжка сказаць, ці будзе ён абраны пасьля другога туру галасаваньня.

Аднак я ніколі не чакаў, што рэфэрэндум дасьць такія вынікі... Мне здавалася, што людзі прымуць больш узважанае рашэньне па пытаньнях рэфэрэндуму. Мае надзеі ня спраўдзіліся. Напэўна ў нас — які прэзідэнт, такі і народ.

### Галіна ЛУКАШЭНКА:

Галіна Радзівонаўна ў тэлефоннай размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ сказала, што яна прагаласавала супраць наданьня расейскай мове роўнага статусу зь беларускай. Паводле ейных словаў, яна вельмі шкадуе, што людзі ў такой вялікай колькасьці выказаліся за расейскую мову. Тым ня менш, на яе думку, беларуская мова ня зьнікне. "Матчына мова будзе жыць заўсёды. Я ў гэта веру", — заявіла жонка прэзыдэнта.

# Куды сьпяшаецца прэзыдэнт

Развагі з нагоды ўзьняцьця нова-старога сьцяга

Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сьпяшаецца. Асабліва сьпяшацца пачаў ён пасьля той ночы (з 11 на 12 красавіка), калі прэзыдэнцкія сокалы ўчынілі гвалт над дэпутатамі ў Авальнай зале. Такое ўражаньне, што А.Лукашэнка баіцца не атрымаць аднаму яму вядомыя дывідэнды. Адбываецца нешта падобнае да таго, што назіралася напрыканцы Другой сусьветнай вайны, калі Красная Армія, выконваючы загад "отца народов", імчала на захад, не зважаючы нават на тое, што за сьпіною заставаліся германскія войскі.

Улагодзіўшы шмат каго з народных абраньнікаў разьвітальнай чаркай, памятным фатаграфаваньнем і новымі пасадамі, прэзыдэнт дамогся высяленьня службаў Вярхоўнага Савету з колішняга будынка ЦК у Менску.

Гэткім жа шабельным наскокам ачысьцілі памяшканьні і ў Доме ўраду. Маёмасьць ці ня двух найважнейшых міністэрстваў — эканомікі і фінансаў — выносілі абярэмкамі, быццам дровы, у непрыстасаваныя для чыноўніцкай дзейнасьці залы суседняга будынка. Фінансава-эканамічнае жыцьцё Беларусі займела з гэтай прэзідэнцкай сьпешкі немалыя праблемы, і цяжка сказаць, калі яно зноў выб'ецца на варты суверэннай дзяржавы шлях. Імпэт перасяленьня міністэрстваў быў такім, што ніхто не пасьпеў заўважыць зьнікненьня ня толькі некаторых асабістых рэчаў чыноўнага люду, такой-сякой фурнітуры з казённай мэблі, але і дарагой аргтэхнікі ды некаторых важных службовых папераў.

Але асаблівую пасьпешлівасьць паказаў прэзідэнт пасьля травеньскай выбарча-рэфэрэндумнай нядзелі. Не аформіўшы, як гэта належыць зрабіць у цывілізаванай дзяржаве, вынікаў рэфэрэндуму, прэзыдэнт А.Лукашэнка паімчаў па вуліцах сталіцы на сваім лімузіне пад народжаным "мазольнай працай" тайнага ордэна ягоных "геральдыстаў" сцяжком, які моцна нагадвае сімвал нейкай краіны афраазіяцкага рэгіёну.

Далей — болей: смак прыходзіць у часе ежы. І ўжо 16 траўня пасьля шаснаццаці гадзін (толькі празь дзень пасьля рэфэрэндуму!), быў спушчаны — дзякуй Богу, што не зрынуты — ненавісны прэзідэнцкаму атачэньню бел-чырвона-белы сьцяг. Торгаючыся, папоўз уверх па сьпічаку шэдэўр прэзідэнцкае "мысьлі". Прыкладна зь дзесятак назіральнікаў, сярод якіх была і пара-тройка людзей з камэрай і фотаапаратамі, млява абмяркоўвалі "знамянальную" падзею. "Ну гдзе вы відзелі беларуса вярхом на кане? — выказваў сваю дасьведчанасьць чалавек у купленых на рынку, як ён сам сказаў, афіцэрскіх нагавіцах. — Вот в брычке — эта да!" Жанчына шасьцідзесяцігадовага веку стомлена ўздыхнула: "Ну, наканец-та". На гэтым цікавасьць да падзеі была вычарпаная, і яе ссутуленая постаць пасунулася да купалаўскага тэатра, муры якога яшчэ памятаюць гвалт, учынены бальшавікамі ў 1917 годзе над удзельнікамі Усебеларускага кангрэсу. Так і жывем — ад гвалту да гвалту. Толькі выпрастаемся, спрабуем уздыхнуць, а тут чарговы месія зьяўляецца: "Нечава тут гвалт крычаць..."

На гэты раз абышлося без традыцыйнага праваслаўнага асьвячэньня. Чамусьці не пажадалі ўладары краіны гучна замацаваць сваю перамогу асабліва ўрачыстым узьняцьцем іхнага дзяржаўнага сімвала. Ці мо задумаліся нарэшце, што перамогі — няма, што пасьля сьвятаў надыходзяць сумна-будзённыя дні, а народ прагне ня толькі відовішчаў, але і хлеба?

Прэзідэнт у чарговы раз парушыў заканадаўства. Прыгадаем: 19 верасьня 1991 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Дзяржаўным сьцягу Рэспублікі Беларусь" і заканадаўчы акт "Аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь". Артыкулы 3 і 2 гэтых законаў прадугледжваюць распрацоўку Палажэньняў аб сьцягу і гербе, у якіх акрэсьліваюцца тэхнічныя патрабаваньні да іх вытворчасьці — колер, памеры, суадносіны дэталяў. Хто і калі нешта падобнае распрацаваў для прэзыдэнцкіх сьцяга ды герба, на якой падставе выраблялiся эталоны Дзяржаўных сімвалаў і ці выраблялiся яны ўвогуле — вядома, мусіць, толькі аднаму чалавеку ў краіне.

На гэты раз, што вельмі дзіўна, прэзыдэнт прамарудзіў і не паруліўся нават сабраць дзеля фармальнасьці залагоджаныя і такія паслухмяныя рэшткі Вярхоўнага Савету — каб хоць дзеля прыліку зацьвердзіць свой трыумф. Кіраўнік дзяржавы парушыў і традыцыі, і законы, што стварыла на Беларусі парадаксальную сітуацыю. Без адмены прынятых у 1991 годзе Дзяржаўных сімвалаў застаюцца цалкам законныя падставы для іх далейшага выкарыстання нават на самым высокім узроўні. У нашых умовах гэта, бадай, можа стаць выяўленьнем менавіта беларускай, няхай і парадаксальнай, формы дэмакратыі. Дэмакратыя, як вядома, ёсьць улада адмыслова арганізаванага народа. А мы маем дзьве даволі арганізаваныя часткі аднаго народа.

Вядома, каго зьядноўваюць падмарафэчаныя бээсэсэраўскія сцяг і герб, а каго — гістарычныя беларускія сімвалы. Паяднаць усё беларускае грамадзтва пад нейкай адной сімволікай сёньня наўрад ці каму ўдасца. І прэзыдэнт, калі ён здольны выкараскацца са свайго калгасна-саўгаснага мысьленьня ды сапраўды стаць кіраўніком незалежнай дзяржавы, павінен быў бачыць, што і за першымі, і за другімі сімваламі стаяць колькі мільёнаў ягоных суграмадзянаў самага рознага веку. Некаторыя зь іх ня ў стане ці пакуль не гатовыя цьвяроза паставіцца да гістарычнай сімволікі, іншыя спакойна глядзяць на штучныя дзяржаўныя сімвалы ў немалой ступені яшчэ і таму, што папросту прывыклі да нечага падобнага за сорак нядаўніх гадоў. Акрамя таго, яны, здаецца, умеюць адаптавацца да выкрутасаў гісторыі і з разуменьнем успрымаюць цёмна-сьветлую цераспалосіцу нашага жыцьця.

У такой сітуацыі, у якой апынулася Беларусь, яе прэзыдэнту, падобна, было б нявартa сьпяшацца менавіта цяпер.

Сімптаматычна, што Захад ацэньвае беларускі рэфэрэндум Захад ацэньвае найперш з пункту погляду магчымасьці ўзнаўленьня Савецкага Саюза. Захаду гэтага ня хочацца. Амэрыканскі гісторык Рычард Пайпс ужо выказаўся, што "узнаўленьне Савецкага Саюза было б жахлівае і для грамадзянаў гэтай краіны, і для сьвету ў цэлым. Супрацоўніцтва эканамічнае — калі ласка. Палітычнага саюзу ніхто ня хоча". Сытаму, мірнаму, задаволенаму заходняму грамадзтву няма клопату пра ўнутраныя праблемы Беларусі. Вырашаць іх трэба нам — уласнымі сіламі. Воляю лёсу і прэзідэнту, і ўсім нам выпала жыць менавіта ў Беларусі. Ад гэтага нам нікуды ня дзецца. Хочаш ці не, а давядзецца хаця б фармальна падтрымліваць тут бачнасьць беларускасьці.

Дарэчы, сімптаматычна таксама, што радасьць з нагоды вынікаў рэфэрэндуму выказалі пакуль толькі расіяне — іхны прэзыдэнт і адзін высокапастаўлены дыпламатычны работнік.

**Міхал СКЕМА**

# Разарвалі сьцяг

**16 траўня, калі вынікі рэфэрэндуму яшчэ не набылі законную сілу, прэзідэнцкі "завхоз" Іван Ціцянкоў з кампаніяй дэманстратыўна разарвалі дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг.**

Гэта адбывалася на даху прэзідэнцкай рэзідэнцыі (будынак былога ЦК КПБ). Беларускае тэлебачаньне, якое рабіла адтуль рэпартаж, не паказала гэтыя кадры: Ціцянкоў цынічна ставіць свае аўтографы (а таксама піша дату і час) на бел-чырвона-белых палосах разарванага сьцягу. На відэастужцы разам зь Ціцянковым зафіксаваныя некалькі ўдзельнікаў гэтай ганебнай акцыі. Чуваць таксама іхная размова:

— Ну, если это Позняк увидит...

— Пусть он задушится!

**Мікалай ВАЙТОВІЧ**

**На здымку: І.Ціцянкоў**



# Конь ты наш незацугляны

Раней працоўныя пісалі пра свае патрэбы ў Маскву — у Крэмль, таварышам генсэкам або на крайні выпадак усесаюзным старастам. Цяпер лісты адрасуюць пераважна "бацьку", Рыгоравічу. У яго, як ён сам сказаў, ужо набраліся "мешки писем, уже под тонну". Што непакоіла працоўных? Бач ты, зусім не інфляцыя, спыненыя заводы, нявыплата заробку, а — "конь с мечом", як прызнаўся прэзідэнт, г.зн. наш дзяржаўны герб Пагоня.

У нас, у Гарадзенскай вобласьці, старшыня аблвыканкаму А.Дубко падтрымаў прэзідэнта: выступаючы на мясцовым тэлебачаньні ў апошні дзень перад рэфэрэндумам, ён падкрэсьліў, што конь гэты, маўляў, "няправільны", бо ў яго няма "уздечки". Цікавае відовішча, калі два ўчорашнія старшыні калгасаў з разумным выглядам разважаюць над пытаньнямі страшэнна далёкай ад сельскай гаспадаркі навукі — геральдыкі.

Дазволю сабе яшчэ адно не зусім карэктнае выказваньне. Сёньня даводзіцца чуць зацятыя спрэчкі наконт таго, ці не пашкодзілі дэпутаты Апазіцыі сваёй акцыяй (абвясьціўшы галадоўку) справе рэфэрэндуму. Бо, як вядома, сэсія спачатку зацьвердзіла толькі адно яго пытаньне. Ці ня варта было на гэтым спыніцца? Адныя гавораць, што галадоўка толькі пагоршыла сітуацыю. Другія — што Лукашэнка ў любым выпадку дамогся б паўторнага галасаваньня па пытаньнях рэфэрэндума.

"Агрэсіўна паслухмяныя" дэпутаты хутчэй за ўсе паддаліся б Лукашэнку. Хоць магло быць і інакш. Але што ўжо махаць кулакамі пасьля заканчэньня бойкі.

Дарэмнымі былі спадзяваньні на тое, што на Гарадзеншчыне людзі могуць выказацца "за" і "супраць" Пагоні 50 на 50, а ў горшым выпадку 40% на 60%. Маўляў, тут яшчэ жывыя традыцыі, уплыў касьцёлу, у душах людзей яшчэ нешта засталося. Тым больш, што ў Заходняй Беларусі бел-чырвона-белы сьцяг увесь міжваенны час жыў, выкарыстоўваўся ў якасьці сімвалу нацыянальна-вызвольнага руху. Дарэмна. Па ўсіх пытаньнях рэфэрэндуму бальшыня галасоў — у сярэднім вышэй за 70% — за Лукашэнкавы прапановы. Самае крыўднае, што памянялі гістарычныя сьцяг і герб на абы-што. Абыякавасьць насельніцтва настолькі відавочная, што прапануй Лукашэнка прагаласаваць за кукіш у вянку з калосьсем, усе не задумваючыся яго падтрымалі б.

Вядома ж, усё кепска, але не безнадзейна. Ёсьць у людзей галовы, але не хапае пакуль розуму пратэставаць супраць беспрэсэдэнтыўных спробаў Лукашэнкі рэстаўраваць сацыялізм у адной асобна ўзятай краіне. У галасаваньні на Беларусі ўзялі ўдзел толькі 64% тых, хто мае права голасу. З 7,5 млн. выбаршчыкаў толькі 4 млн. прагаласавала за тры прапановы Лукашэнкі, а за вяртаньне савецкіх герба і сьцяга — толькі 3,6 млн., г.зн. менш за палову выбаршчыкаў. Дарэчы, у Ленінскім раёне Горадні рэфэрэндум увогуле не адбыўся.

У Горадні праводзілася апытаньне на выбарчую тэму. 30% апытаных прызналіся, што на прэзідэнцкіх выбарах яны прынялі сваё рашэньне задоўга да галасаваньня. 17% — за некалькі тыдняў да выбараў, а за некалькі дзён больш за ўсё — 34%. 4,5% прынялі рашэньне толькі калі зазірнулі ў атрыманы бюлетэнь. Амаль 3% увогуле адвольна выкасавалі прозьвішчы кандыдатаў. Дзесятая частка апытаных адказала, што адмовілася галасаваць зусім.

Але ж, як вядома, на прэзідэнцкіх выбарах усе кандыдаты былі больш-менш знаныя і было іх няшмат — усяго 6 у першым туры. Тым ня менш, бальшыня выбаршчыкаў сфармавалі сваё рашэньне на падставе той ці іншай інфармацыі, якую яны атрымалі з розных крыніц. Ажно 70% прызналі, што найбольшы ўплыў зрабілі выступы саміх кандыдатаў на тэлебачаньні, па радыё і ў прэсе. Амаль у 38% выпадкаў вельмі важнымі былі журналісцкія матар'ялы пра кандыдатаў, распаўсюджаныя праз mass media.

На што пры гэтым найбольш зьвярталі ўвагу выбаршчыкі? На асабістыя якасьці кандыдата (63%), уменьне і магчымасьці абараняць інтарэсы электарату (56%), супадзеньне зь ім у поглядах (41%), прыватная перадвыбарная праграма.

Лукашэнку, безумоўна, было вядома аб выніках падобнага апытаньня. Таму, ён сваім указам зрабіў так, каб бальшыня выбаршчыкаў да апошняга моманту нічога ня ведала пра сваіх кандытатаў. Мэта была дасягнута.

Паводле вышэй згаданага апытаньня сярод гарадзенцаў самая ўплывовая палітычная сіла — партыя БНФ. А што ж паказалі вынікі выбараў? У 4-х з 6-ці гарадзкіх акругаў выбары не адбыліся. Прычым ва ўсіх чатырох балатаваліся прадстаўнікі БНФ, а ў трох яны нават набралі найбольшую колькасьць галасоў. Усё гэта міжволі спараджае падазрэньні... Што датычыць дзьвюх іншых акругаў, дык там балатаваліся прадстаўнікі Грамады, але безвынікова. У адной (Сувораўскай) наперад выйшлі сумнавядомы Фядута і малады пракурор Урублеўскі. У другой (Болдзінскай) наперадзе апынуліся прэзідэнцкі "кантралёр" Гараеў і дзеяч ПКБ, колішні першы сакратар абкаму Сямёнаў, якога Лукашэнка спрабаваў зрабіць сваім "вэртыкальным" у вобласьці.

Сямёнаў — стары, сівы. Чытае толькі газэты "Правду" і "Товарищ". Гараеў — малады і вельмі прагны ўлады. "Галасы" ён сабе зрабіў у комплексе шпіталяў, якія знаходзяцца на тэрыторыі акругі. Хворым перад выбарамі нават выдавалі лекі па гараеўскай улётцы. У сп.Гараева Сяргея Шакіравіча, праўда, ёсьць свая ахілесава пята. Не выпадкова ж яму параілі не ўказваць ва ўлётцы імя па бацьку, а настойліва падкрэсьліваць, што ён украінец, а значыць свой — славянін. Бо Сямёнаў жа расеец зь Іванава — "города невест".

Прадстаўнікі БНФ усё ж трапілі ў другі тур выбараў у Астравецкім (Баўсюк) і Івеўскім (Келдановіч) раёнах вобласьці, а таксама ў гарадах Смаргонь (Дзергачоў), Навагрудак (Макарчык) і ў абедзьвюх акругах Ліды (Суднік і Лазарэвіч).

Зь першага разу на Гарадзеншчыне прайшлі ў ВС усяго 3 чалавекі, прычым далёкія ад дэмакратыі. Крыху не дабралі да перамогі старшыня Аграрнай партыі С.Шарэцкі (49,8%) — на Навагрудчыне, дэпутат ВС Кузьма (46,5%) — у Сьвіслацкім раёне, М.Грыб (42,8%) — у Дзятлаўскім. А.Дубко, дарэчы, сказаў журналістам, што будзе галасаваць за свайго сына — старшыню калгаса "Азёры", які набраў на выбарах 40% галасоў.

А вось сп.У.Нісьцюку, які ў якасьці прэс-сакратара вельмі спрычыніўся да перамогі Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах, не пашанцавала. Ён са ўсіх сіл угаворваў выбаршчыкаў Прынёманскай акругі Горадні прыйсьці на выбары, казаў, што са свайго вопыту ведае, "как фабрикуются результаты выборов, как они покупаются и продаются". Але выбары не адбыліся.

Тымчасам вяскоўцы паўсюль прагаласавалі, як ім было сказана — пераважна за аграрыяў. Шантажавалі каго соткамі, каго гноем, каго сенажацьцю... Спэцыяльна хадзілі па хатах з выбарчай скрыняй і прымушалі прагаласаваць так, "як трэба прэзідэнту".

У Горадні пабочных назіральнікаў было небагата — польскі консул, два прадстаўнікі НБСЭ, два ўкраінцы. Было некалькі нечаканых здарэньняў. У адной акрузе не ўпісалі ў выбарчыя сьпісы жыхароў вялікага новага дома. У другой выбаршчыца публічна намалявала на бюлетэні свастыку. У трэцяй у выбарчай кабіне памёр мужчына 1932 года нараджэньня...

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Улады схітрылі і цяпер адкручваюць час назад

**Тыя, хто разьлічваў, што пасьля рэфэрэндуму жыцьцё адразу пойдзе ўгору, вельмі памыліліся ў сваіх спадзяваньнях. Пакуль угору ідуць толькі цэны, у прыватнасьці — на камунальныя паслугі.**

Напярэдадні рэфэрэндуму ўлады, як заўжды, схітрылі. Яны вырашылі не нагадваць жыхарам кватэраў пра новыя тарыфы на камунальныя паслугі, бо зразумелі, што гэтая непрыемная навіна можа спрацаваць не на карысьць прэзідэнта. Таму навіну ўтрымалі. Цяпер жа, калі рэфэрэндум пераможна завяршыўся, ужо можна не хітрыць.

У бліжэйшыя дні грамадзяне атрымаюць "бацькаў падарунак" — ЖЭСы ўжо рассылаюць квіткі з новымі цэнамі. Аплата за гарачую ваду і ацяпленьне ўзрасла ў 3 разы, за халодную ваду і каналізацыю — у 8, за газ — у 5, за жылую плошчу — у 6 разоў. Прычым новыя тарыфы пачалі дзейнічаць, як высьвятляецца, яшчэ з 15 красавіка, хоць урадавая пастанова "Аб павышэньні тарыфаў..." датаваная 26 красавіка. Такім чынам, замест адкручваньня цэнаў улады заняліся адкручваньнем часу назад. Таму не зьдзіўляйцеся: хоць вы ўжо і расплаціліся за красавіцкія паслугі, усё роўна давядзецца даплаціць па новых тарыфах.

Відавочна, што многім людзям новыя кошты будуць не па кішэні, таму шмат хто вымушаны будзе папросту не плаціць нічога. Як паведамілі нам у Міньжылкамунгасе, нават пры ранейшых расцэнках на камунальныя паслугі прыблізна каля 20 працэнтаў жыхароў адмаўляліся за іх плаціць. Цяпер жа, як прагназуюць камунальнікі, колькасьць неплацельшчыкаў рэзка павялічыцца. Бо за 1-пакаёвую кватэру давядзецца плаціць 80 тысяч рублёў, за 2-пакаёвую — больш за 90 тысяч, за 3-пакаёвую — каля 110 тысяч.

**Міхал ХВАЙНІЦКІ**

# "Выбары ў Беларусі не адпавядалі ўсім міжнародным стандартам свабодных і роўных выбараў"

**Так адзначаецца ў прэс-рэлізе, які распаўсюдзіла дэлегацыя міжнародных назіральнікаў, якія прадстаўлялі Арганізацыю па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе. У склад дэлегацыі ўваходзілі прадстаўнікі 6-ці краінаў. У дзень галасаваньня яны наведалі каля 70-ці выбарчых участкаў, пабываўшы, апрача сталіцы, у іншых гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі.**

Недэмакратычнасьць выбараў, на думку назіральнікаў, выявілася, па-першае, у тым, што *"выканаўчая ўлада неадэкватна ўмешвалася ў некаторыя аспэкты выбарчага працэсу"*. Па-другое: прэзыдэнцкі ўказ аб так званых "роўных магчымасьцях" прывёў да таго, што партыі і кандыдаты ня мелі патрэбнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі, каб як сьлед азнаёміць выбаршчыкаў са сваімі платформамі. У такой сітуацыі, падкрэсьліваюць назіральнікі, выбаршчыкам было цяжка рэалізаваць сваё права голасу. Адзначаецца таксама, што ўлада аказвала ўціск на сродкі масавай інфармацыі, распаўсюджвала *"паклёпніцкую інфармацыю на апазіцыйныя партыі і кандыдатаў"*.

*"Дэлегацыя таксама заўважыла,* — гаворыцца ў прэс-рэлізе, — *іншыя парушэньні, калі выбаршчыкі бралі, крэсьлілі і кідалі ў урны па некалькі бюлетэняў як парламанцкіх, так і па рэфэрэндуме"*. Аднак, *"нягледзячы на гэтыя парушэньні, дэлегацыя хоча падкрэсьліць, што будучае дэмакратычнае разьвіцьцё Беларусі можа быць парушана перш за ўсё немагчымасьцю стварыць парламант з прычыны непрыходу выбаршчыкаў на другі тур галасаваньня. Таму дэлегацыя настойліва заклікае электарат удзельнічаць у выбарах"*.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Сваім выбарам мы зноў зьдзівілі сьвет

**Заходняя прэса даволі востра адрэагавала на вынікі рэфэрэндуму і першага туру парламанцкіх выбараў на Беларусі.**

**"Расейскія сувязі спакусілі беларускіх выбаршчыкаў"**, — піша ***Financial Times*** за 15 траўня, зьмясьціўшы пад гэтым кідкім загалоўкам інфармацыю пра папярэднія вынікі галасаваньня. *"Аграрнікі, камуністы і беспартыйная намэнклатура з "партыі ўлады" хутчэй за ўсё выйграюць большасьць дэпутацкіх месцаў"*, — робіць прагноз газэта.

У наступным матар'яле **"Беларусь вяртаецца ў расейскія абдымкі"** (16 траўня) даецца больш дэталёвы аналіз. Вельмі дзіўна, адзначае ***Financial Times,*** што выбары, *"першыя з часу абвяшчэньня незалежнасьці ў 1991 г., прывялі ў парлямант толькі 19 дэпутатаў... Заходнія дыпламаты вельмі непакояцца, што новы парламант не зьбярэцца да канца гэтага, а то навят і пачатку 1996 года — па прычыне адсутнасьці кворуму і таму, што новыя туры папросту ня будуць прызначаныя. Гэта дасьць "моцнай руцэ" Лукашэнку магчымасьць правіць выключна сваімі ўказамі, а менавіта да гэтага ён апошнім часам і імкнуўся"*.

*"Давер да Беларусі як дэмакратычнай дзяржавы трапіў пад вялікі сумнеў у выніку жорсткіх абмежаваньняў у дачыненьні да СМІ і перадвыбарчай агітацыйнай кампаніі... Да таго ж парламанцкія наглядальнікі з АБСЭ сказалі, што на выбарах былі адзначаныя парушэньні, як "неадназовае галасаваньне", "недастатковасьць інфармацыі" і "жахлівыя абмежаваньні дзейнасьці партыяў"*.

**"Беларусь прагаласавала за старыя сувязі з Масквой"**, — канстатуе ў загалоўку ***The Independent*** 16 траўня. *"Вынікі, здаецца, пахавалі ілюзіі, што Беларусь хоча ці можа быць суверэннай дзяржавай. Большасьць народа... да распаду Савецкага Саюза ў 1991 г. не шукалі незалежнасьці ад Масквы. А прэзідэнт Лукашэнка апантана агітаваў за больш цесныя сувязі з Расеяй. У адрозьненьне ад іншых народаў былых савецкіх рэспублік беларусы ўсё яшчэ адчуваюць настальгію па Савецкім Саюзе"*. У артыкуле таксама адзначаецца, што прэзідэнт хацеў перш за ўсё скасаваць менавіта гістарычную сімволіку. *"Прарасейскія ўлады не пакінулі ніякіх шанцаў у часе падрыхтоўкі да рэфэрэндуму. Падкантрольнае дзяржаве тэлебачаньне двойчы трансьлявала праграму, якая прыпісвала апазіцыйным палітыкам Народнага Фронту сувязь з фашыстамі"*. Гаворачы пра выбары, газэта са зьдзіўленьнем і нават зьдзекам заўважае: *"Сп.Лукашэнка тэатральна прадэманстраваў, што грэбуе выбарамі, наймысна зрабіўшы свой бюлетэнь несапраўдным, калі галасаваў на сваім участку ў Менску"*.

*"Рашэньне прынізіць беларускую мову здаецца зьнешняму назіральніку надзвычай дзіўным"*, — заўважае ***The Times*** у публікацыі за 15 мая і цытуе словы Васіля Быкава: *"Беларусі засталося так мала. Адна рэч, якую мы былі захавалі, — мова, і гэты рэфэрэндум вырашыў яе лёс"*.

Хоць кожнае выданьне робіць нейкія свае акцэнты, агульны настрой усіх публікацыяў можна перадаць словамі заходняга дыпламата, якія прыводзіць ***Financial Times:*** "Недарэчна было б думаць, што час можа спыніцца. Але Беларусь засталася найбольш кансэрватыўнаю часткаю СССР. Гэта вельмі моцна прыгнятае".

**Падрыхтаваў Усевалад РАГОЙША**

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Мая вайна

Калі 9 траўня я слухаў сьвяточныя выступы, адна думка не давала мне спакою: людзі забыліся вайну. Мне зразумелае іхнае сьвята — яны ўспамінаюць ранейшыя часы, смуткуюць па тых, каго ўжо ня вернеш, і я гатовы падзяліць іхнюю радасьць і іхні смутак. Гэта як бы вяртаньне ў маладосьць — знаёмыя словы, сьцягі, выразы твараў. Але гэта ня тая памяць, якая гарантавала б ад паўтарэньня. Гэта перамога, зь якой няма ўрокаў. Зразумела, што пераможцы маюць поўнае права не задавацца такімі пытаньнямі, маўляў, Перамога — урок для ворагаў. Аднак такія развагі апраўданыя толькі ў тым выпадку, калі лічыць, што гісторыя скончылася альбо што мы ўсе жывем толькі сёньня, а заўтрашняга дня — не існуе. Канфлікт непаразуменьня паміж многімі вэтэранамі і тымі, хто спрабуе асэнсаваць вынікі Перамогі, — не ў сімпатыях да "сваіх" і "чужых", а якраз у спробе ўзяць зь мінулае вайны ўрокі на будучыню, на што нярэдка чуецца ў адказ: не чапай!

Пасьля 9 траўня я зразумеў, што існуюць як бы дзьве мінулыя вайны: агульная, якая складаецца з радасьці Перамогі і смутку стратаў, і мая, асабістая, якая ўся складаецца з пытаньняў. Я спрабую адказаць на іх, бо бяз гэтага цяжка зразумець, што адбываецца зь людзьмі сёньня.

Што такое фашызм і з чаго ён пачынаецца? Чаму адна з самых культурных краінаў Эўропы — Нямеччына — уся раптам паддалася масаваму псіхозу? Ці не паддасца яна зноў, і чым ад масавага псіхозу гарантаваныя мы самі? Чаму чалавечае жыцьцё можа страціць цану? Нейкія людзі прыходзяць, зьбіваюць вас, а ўсе астатнія глядзяць на гэта, як на належны парадак рэчаў, бо ёсьць у гэтым парадку рэчы, важнейшыя за ваша жыцьцё. Што можа быць важнейшае?

Колькі сябе памятаю, я шукаў адказаў на гэтыя пытаньні. Распытваў вэтэранаў, перагортваў кнігі, супастаўляў. І цяпер я ня буду пераконваць вас, а вы ня будзеце асуджаць мяне. Мы толькі будзем разам думаць пра гэта, таму што нас яднаюць аднолькавыя жаданьні — не дапусьціць фашызму, масавага псіхозу, ня страціць цану чалавечага жыцьця — у імя чаго б там ні было. Падставы для такіх думак, на жаль, ёсьць.

## Паўінтэлігенцыя

У мяне вельмі шмат сяброў-літоўцаў. Культурныя, прыстойныя, добрыя людзі. Я гляджу на іх і думаю пра сваё. Чаму ва ўсіх сабраных мною па вёсках і ад вэтэранаў успамінах няма ніводнага добрага слова пра паводзіны літоўцаў на нашай зямлі ў часе акупацыі? Можа быць, я дрэнна шукаў, ня ведаю. Адно магу сказаць, што ня быў тэндэнцыйны. Наадварот, шукаў згадак пра гуманныя ўчынкі, а мне расказвалі пра тое, як літоўскія аддзелы ў нямецкай форме расстрэльвалі людзей, ды яшчэ пад гармонік, як нямілаэрна зьнішчалі габрэяў... Праўда, падобную жорсткасьць на нашай тэрыторыі выявілі і расейскія аддзелы, і украінскія, і самі беларусы, якія служылі ў немцаў. Напэўна, рэч не столькі ў нацыянальнасьці. Рэч нават не ў нацыяналізьме. Нацыяналізм можа быць як стваральны, так і разбуральны. Усё залежыць ад людзей.

Пачынальнікі літоўскага нацыяналізму на мяжы стагодзьдзяў — высока адукаваныя людзі, якія далі сваёй нацыі ідэю ўласнага дому, сваёй дзяржавы — абсалютна прадуктыўную, якая плённа працуе і сёньня. Гэта былі сумленныя і добрыя людзі, захопленыя ідэяй стварэньня. Але на зьмену тым першым носьбітам нацыянальнай ідэі ў часе вайны прыйшла так званая паўінтэлігенцыя, "недавучкі". Тое самае адбылося тады паўсюль, найперш у Нямеччыне, дзе разам з Гітлерам да ўлады прыйшла такая самая публіка. Магчыма, тое ж было і пры рэвалюцыі ў Расеі. "Недавучкі" патрабавалі ад народа сьляпое веры, і адсюль, відаць, гэтыя распраўы НКВД, ліквідацыя ўсіх нязгодных, разумнейшых, дабрэйшых...

Паўінтэлігенцыя перакананая ў сваёй вышэйшасьці над іншымі, але яна ніколі ня мае пазітыўнай праграмы, яна адразу пачынае шукаць ворагаў.

Першая паралель уразіла мяне, калі я дзьве з паловай гадзіны слухаў па радыё сустрэчу з тэлегледачамі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Сустрэча называлася "Шлях, які мы выбіраем". Які шлях выбірае наша Беларусь? Пра гэта на сустрэчы не было сказана ні слова. Затое колькі было выказана скрытай і яўнай пагарды да тых, каму для поўнай яснасьці застаецца прычапіць знаёмую таблічку — "вораг народа"...

Прызнаюся, у часе гэтай сустрэчы я спакушаўся даверыцца прэзідэнту, якога так падтрымлівае сабраны ў студыі народ. Але чаму прэзідэнт толькі рэагуе на зрывы ў прамысловасьці, на забастоўкі настаўнікаў, на законы, прынятыя ВС, на закіды БНФ? Чаму ён не сфармулюе свой "шлях, які мы выбіраем"? Я не галасаваў за Лукашэнку, але ён — прэзідэнт, і таму я не хачу падмануцца ўласнымі сімпатыямі ці антыпатыямі, мяне цікавіць толькі шлях. Калі выбіраецца шлях аднаўленьня СССР, то чаму пра гэта трэба гаварыць намёкамі? Калі выбіраецца незалежнасьць — чаму пра гэта не сказаць адкрыта? Тым больш, што гібрыда з гэтых двух шляхоў не атрымаецца — яны вядуць у розныя бакі. А застаўляць паміж імі — дык колькі можна трымаць людзей у гэткай нявызначанасьці і няпэўнасьці?

Трымаць народ у няпэўнасьці — выгадна. Народ не пратэстуе, бо дапускае, што ў прэзідэнта ёсьць добрыя ідэі, толькі нехта замінае іх ажыцьцяўляць. Сам жа прэзідэнт ніколі не прызнаецца, што такіх ідэй у яго няма.

## Свой дом

За мінулыя пяць гадоў людзі забыліся ўсё кепскае, што было пры таталітарным ладзе. Засталася толькі памяць пра сьветлыя і лепшыя, бо маладыя гады. "Хто сказаў, што мы дрэнна жылі?" Ня помніцца ні поўная ізаляцыя ад астатняга сьвету, ні больш чым сьціплы, затое ва ўсіх аднолькавы, быт, ні аднастайнасьць друку і тэлевізіі, дзе пачыналі з рапарту камбайнэраў, а сканчалі заморскімі агрэсарамі, — адныя словы з дня ў дзень, з году ў год. Затое можна было паўлегальна перапісаць у таварыша песьні Высоцкага, паслухаць у курылцы анэкдот пра Васіля Іванавіча, выпіць цёплага кіслага піва і бясконца бурчаць, бурчаць, бурчаць пра непарадак, пра тое, што жывем не як людзі.

Гэта ж нам самім абрыдла такое жыцьцё, гэта мы захацелі быць свабоднымі, інфармаванымі, багатымі. Нармальнымі. Але, як паявілося, — каб нічога самім дзеля гэтага не рабіць. І мы чакалі 10 гадоў, каб нашае жаданьне споўнілася. Недзе мільганула ідэя свайго дому, сваёй дзяржавы, свайго парадку. Мы чакалі, што з гэтага будзе. Але ідэя не развілася бяз нашае дапамогі. А там, у палітыцы, калі не перамагаеш ты, перамагаюць цябе. Прайшоў час, і вось ужо за лепшае нам здаецца павярнуць назад. Аддайце нам тое, што было раней, бо для таго, каб стварыць нешта новае, ад нас патрабуюць занадта шмат думаць, хацець, вырашаць.

У завадзі гэтага пасіўнага чаканьня і зьяўляецца на сьвет беларускі прэзідэнт. Ідэя вяртаньня СССР стала для маладога партработніка ідэяй рэваншу. Бо гэта не будаўніцтва, а штосьці наадварот. Мы захацелі адбудаваць свой паўразбураны дом, паставілі рыштаваньні, але раптам ацанілі аб'ём работ і адмовіліся ад сваёй задумы. Што цяпер рабіць? Прыходзіць прэзідэнт і ўсенародна абвяшчае наш новы конкурс — зьняць рыштаваньні!.. Хіба гэта конкурс?

Увогуле ў Беларусі для вяртаньня СССР трэба ня столькі нешта рабіць, колькі не рабіць нічога, а менавіта — не будаваць свой дом, адмовіцца ад пары набытых па ўсесаюзнай модзе атрыбутаў, уключыць радыё і слухаць папулярную перадачу "Вечары на канапе". Ідэя вяртаньня патрабуе ад народа не напружаньня, а наадварот — расслабленьня. Дзеля чаго, у імя чаго мы будзем працаваць лепей і болей? Хіба мы забыліся пра цану гэтых заклікаў пры СССР? Працуй — не працуй, а гультай усё адно атрымае болей. Забыліся...

Я разумею паляка, звычайнага польскага рабочага, які са скуры вылузваецца, каб ягоная прадукцыя па якасьці магла канкураваць зь нямецкай, які сьвядома купляе толькі польскія тавары, які сур'ёзна гаворыць мне пра польскі бюджэт, — чым болей туды паступіць, тым вышэйшы будзе ягоны ўзровень жыцьця. Дзіўны гэты паляк. Думае, што ад яго штосьці залежыць у бюджэце... Мы ніколі так не мітусіліся дзеля бюджэту саюзнага ці рэспубліканскага. Мы толькі ў апошнія гады даведаліся, колькі там рэальных грошай. "Калі нас, вядома, не падманулі". Мы даведаліся, але, здаецца, гэта непатрэбная інфармацыя. Колькі нам палажана — нам і так дадуць. Палякі будуюць сваю дзяржаву, мы вяртаемся ў СССР.

Гэта наша галоўная ідэя, зь якой мусіць вынікаць і наша дзяржаўная ідэалогія — ідэалогія рэваншызму. Мы — ледзь прыкметны народ на прасторы ад Буга да Курыл — наўрад ці можам думаць пра такі вялікі "свой дом", каб зрабіць яго ўтульным, цёплым, багатым. Але што тады сагрэе нас у нашым рэваншы, што аб'яднае, што натхніць, што павядзе за сабой? Няўжо тое, што і было, — нянавісьць да нашых агульных зьнешніх і ўнутраных ворагаў? Няўжо гэта яны — дывэрсанты, сабатажнікі, шкоднікі — зноў прымусяць нас працаваць лепей і болей?

Цікава, як у маладых незалежных дзяржавах развіваюцца адносіны дзяржавы і чалавека. Беларускі прэзідэнт заявіў, што ў Літве палова эканомікі — мафіёзная. Я сказаў пра гэта знаёмаму літоўцу, ён толькі сьцепануў плячыма. Калі я, кажа, просты грамадзянін, адчуваю, што ўсё навокал існуе для мяне — крамы, абслуга, установы, — і нідзе не сустракаю праблем, калі расьце мой дабрабыт, калі вакол усё робіцца для Літвы і для маіх дзяцей, то няхай усю эканоміка будзе мафіёзная, гэта ня мой клопат. Я лепш працую — больш зарабляю. Усё. Калі б у гэтай логіцы пачаліся збоі, магчыма, тады я і пачаў бы думаць пра тое, мафіёзная эканоміка ці не.

Пры жорсткіх законах тут праводзіцца досыць мяккая сацыяльная палітыка, існуе маса даплатаў. Пэнсіянэрка ня можа справіцца з высокай кватэрнай платай, піша просьбу — і ёй скасоўваюць вялікі доўг. Асабіста мяне зьдзівіла гэтая сістэма просьбаў і заяваў. Калі паводле закону — пішацца заява, калі па-людзку — просьба.

На гэтым прыкладзе выразна відаць, які тон грамадзкіх узаемаадносінаў зададзены ў дзяржаве. Закон для ўсіх адзін, але ніводзін закон не можа ахапіць усё жыцьцё, усе магчымыя сітуацыі. Інакш хапіла б, напрыклад, крымінальнага кодэксу, і зусім непатрэбны быў бы суд.

Дык вось, адносіны паміж людзьмі, якія фармуюцца "побач" з законам, сьведчаць пра тое, які тут грамадзкі лад — міласэрны, свой, добразычлівы ці наадварот, і для каго ён — для кожнага грамадзяніна ці для нейкай групы выбраных, для якіх "закон што дышла".

У Літве вельмі ўстойлівая карупцыя, але ўся гэтая сістэма стабілізавалася, і віленскія хабары ўжо даўно не параўнаць зь менскімі, якія растуць у шалёнай прагрэсіі. Як, дарэчы, не параўнаць і кошты на кватэры, на машыны, на імпартовыя тавары. Літоўскі ўрад рашуча адабраў у людзей права змагацца за старыя парадкі, але ўсталяваў парадкі новыя, больш прывабныя, і грамадзтва не падымае сьцяг барацьбы.

## Мы вяртаемся ў СССР

Зусім іншая рэч — ідэалогія рэваншу. З рэваншу Нямеччыны пасьля паразы гэтай вялікай дзяржавы ў І Сусьветнай вайне пачынаў Гітлер. На жаль, гэтая паралель развіваецца далей. Сваю ідэю рэваншу Гітлер дапоўніў ідэяй расавай перавагі немцаў. Спачатку гаварылі пра тое, што немцы пакрыўджаныя, у першую чаргу жыдамі, а пасьля сталі проста сьцьвярджаць, што немцы, арыйцы — лепшыя за ўсіх. Сёньня ідэя пакрыўджанай расы загучала з вуснаў паўінтэлігенцыі ў нас, на Беларусі. Гэта даўняя ідэя прыгнечаных усімі на сьвеце славян, якім прыйшоў час узяць сваё. Прэзідэнт Дудаеў у інтэрвію ўкраінскаму тэлебачаньню (беларускае ТБ яго не паказала) назваў гэтую ідэю "россизмом". Вялікаросы, маларосы і беларосы пачуваюцца пакрыўджанымі перад абліччам сусьветнага жыдоўства, імпэрыялізму, камунізму і г.д. Адразу называецца вораг.

Трэба прызнаць, што пралетарская ідэя саступае расізму сваёй ідэалагічнай закамуфляванасьцю. Яна не крычыць адкрыта — ідзі, забі яго, бо ён не такой крыві. Яна спараджае масавы энтузіязм падманутых людзей. Але ўжо ў тым, што людзі вераць у сьветлую казку і робяць яе былью, ёсьць элемэнт тэатралізацыі, нават творчасьці. Расавая ідэя адразу называе ворагаў народа і не апранаецца ў тэатральныя строі. Яна патрабуе масавай істэрыі. Сталінскія часы многаму навучылі сёньняшніх рэваншыстаў, але сёньняшнія ўжо не прапануюць народу будаваць рай на зямлі. Іх ідэалогія — расплата з ворагамі за ўсе пакуты славянскага племені. Накачка людзей праводзіцца вядомымі мэтадамі — дзяржава прысвойвае ўсе сродкі масавай інфармацыі, усе нязгодныя аб'яўляюцца ворагамі народа або фашыстамі, — бо хто ж народу найгоршы вораг!

Але што нас чакае заўтра на нашым шляху ў легендарны СССР, які застаўся без сваёй легенды — апошнее мары чалавецтва пра рукатворны сьвет усеагульнае дабрыні і роўнасьці?

Гаворачы пра тое, што замена сімволікі — гэта толькі замена 150 гербавых пячатак, прэзідэнт, мякка кажучы, ілукавіў. Дапусьцім, за новыя нумары машын і ашчадныя кніжкі людзі заплоцяць са сваёй індывідуальнай кішэні. Але што будзе з ваеннай і міліцэйскай формай, дзяржаўным транспартам, надрукаванымі пашпартамі, грашыма, маркамі, бланкамі?.. І галоўнае — што будзе з нацыянальным сьцягам і Пагоняй? Кампанія па вынішчэньні? Зразумела, што новыя сімвалы не адпавядаюць ані геральдычным, ані эстэтычным патрабаваньням (пра густ нашых мастакоў цяпер будуць вельмі дрэнна думаць у сьвеце), у гэтым сэнсе яны па ўсіх парамэтрах прайграюць і нацыянальным, і савецкім сімвалам. Відавочна, што ствараліся яны экспромтам, на нейкі час, і на ўсе закіды да іх можа быць толькі адзін цынічны адказ — пачакай, хутка ўсё будзе расейскае.

Прэзідэнт даў у рукі беларускіх партый і асобных палітыкаў своеасаблівы кубік-рубік, выбары-перавыбары на год ці болей. Заняў, адным словам. А сам тым часам заняўся чарговым узяднаньнем з Расеяй. Але ці ўратуе гэтае ўзьяднаньне ад поўнага беззаконьня, калі зганьбаваная канстытуцыя, калі ідзе цкаваньне на "ворагаў народа", калі зацараваў паўінтэлігент з выразнай расавай ідэалогіяй, а нішто ня сьведчыць пра паляпшэньне жыцьця людзей?

Ня маючы ніякіх асабістых антыпатый ні да Расеі, ні да ўласнага савецкага мінулага, я думаю — магчыма, я памыляюся? Тады што гарантуе нас ад масавага псіхозу?

Дай Бог, каб Лукашэнка стаўся разумнейшы за ўсіх нас, але ён пра гэтыя гарантыі маўчыць. У чым яны? У тым, каб наладзіць парваныя сувязі, узаемапастаўкі і плацяжы? Але зусім ня гэта рабіла колішні СССР стабільнай дзяржавай. Ня гэта, а дзяржаўная ідэалогія і аднапартыйнае кіраўніцтва. Сёньня на зьмену колішнім камуністам прыйшла беспартыйная намэнклатура, а на зьмену марксізму-ленінізму — ідэя панславізму і ягоных ворагаў. Нават у камандзе беларускага прэзідэнта няма і ня можа быць той жорсткай партыйнай дысцыпліны, якая, між іншым, у ранейшыя часы часта ўтрымвала начальства і ад амаральных учынкаў. Сёньня начальства ня стрымлівае нішто.

Калі ж мы і сапраўды ідзем да самай чорнай тыраніі, нават бяз казкі пра сьветлую будучыню, то чаго чакае беларуская інтэлігенцыя? Яна затаілася. На што спадзяецца? На тое, што хада гісторыі — непрадказальная? І раптам усё як-небудзь павернецца на добры лад? Ці на тое, што ў Расеі глыбей пусьціла карані дэмакратыя? І гэта супакоіць люмпэнізаваную частку нашага насельніцтва? Але там, здаецца, сітуацыя нашмат горшая за нашую. Малады капіталізм там стакроць больш цынічны. Там 300-тысячныя тыражамі выходзяць адкрыта фашыстоўскія газэты. Там вахтавым мэтадам возяць салдат у Грозны, каб крывёю мірных людзей былі замазаныя ўсе, цэлае пакаленьне.

Тады яно ня спыніцца ўжо ні перад чым. Там праз год — выбары прэзідэнта, якія цэлая плойма агрэсіўных "россистов" разглядае як самы апошні бой.

Я не знаходжу, што можа спыніць у нас падзеньне цаны чалавечага жыцьця. Я бачу толькі кашмарнае відовішча з новымі асьвенцімамі (нават не гулагамі), хатынямі і гестапамі, з адзіным спосабам выжыць — напісаць данос на суседа.

Мабыць, меў рацыю Адам Міхнік, які заўважыў: мы яшчэ ня ведаем, якія пачвары павылазяць пасьля падзеньня камунізму. Што на гэта адкажаш? "Людзі, будзьце пільныя"? Але такія заклікі цяпер спрацоўваць толькі ў школьных сачыненьнях. Таму што людзі забыліся вайну...

### Інтэлігенцыя

200 гадоў беларуская нацыя дасьпявае да таго, каб стаць нацыяй. І кожнага разу на апошнім кроку ёй адсякаюць галаву. Апошняе зьнішчэньне — сталінскае — было самае масавае. Гэтых палітыкаў, пісьменьнікаў, музыкаў, настаўнікаў адстрэльвалі тысячамі. А яны нарасталі і нарасталі новыя. Цягнуліся да мовы, да гісторыі, да адметнай нацыянальнай прыроды. Зьбіраліся ў падпольлі, падымалі бел-чырвона-белы сьцяг і казалі "Жыве Беларусь!" Жыве наш свой дом...

Цяпер ім пабілі насы і назвалі фашыстамі. Іхні сьцяг выбіты з рук, апляваны герб, мова выкрэсленая зь ліку прэтэндэнтаў на выжываньне. Што яны сабе думаюць? Яны чакаюць, што, як папярэднікаў, іх зноў будуць грузіць у цялятнікі, варанкамі вазіць у Курапаты?.. Пяты ці дзесяты раз у дачыненьні да іх паўтараецца той самы сцэнар.

А можа, гэта беларуская нацыя сама скідае сваю галаву, як яшчарка адкідае хвост? Можа, гэта вопыт стагодзьдзяў, калі ўсю нацыю бясконца перапісвалі то палякамі, то расейцамі, то адной рэлігіі, то другой, — можа, гэты вопыт адвучыў людзей хацець хоць што-небудзь рабіць самім? Як глыбока загнаная гэтая нехаць?

Што ў такой сітуацыі рабіць нацыянальным сілам? Працягваць экстэнсіўныя палітычныя гульні? І гэтым толькі ятрыць прэзідэнта, падахвочваць яго не на гучныя працэсы, а на банальнае мардаваньне. Уцякаць у эміграцыю? Ісьці ў лес? Каб сяляне здавалі змагароў дакладна так, як здавалі паўстанцаў Каліноўскага? Заняцца культурай? Ва ўмовах жорсткага цэнзурнага і эканамічнага ўціску... Спадзявацца на час, на тое, што Лукашэнка сыдзе ў Маскву, а тут пасадзяць не такога ваяўнічага паўінтэлігента? Але ж новага застою таксама ня будзе...

Самае горшае, што цяпер можа нацыянальны рух, — гэта шукаць тлумачэньня ў аб'ектыўных абставінах, зваліць віну на люмпэн, на Шушкевіча. Прычына паразы — толькі ў самім руху, у ягонай карпатыўнасьці, у экстэнсіўных мэтадах, у апазіцыянэрстве, у тым, што так і ня ўзьняўся да свайго волевыяўленьня, так і застаўся замкнуты, падзелены на сваіх і не сваіх, захоплены сваімі "перамогамі".

Нядаўна мне давялося размаўляць з замежным прафэсарам, які па ўсёй Беларусі рабіў апытаньне, каб высьветліць структуру грамадзкай думкі і нацыянальнай сьвядомасьці. Дык з анкетаў гэтага прафэсара вынікае, што людзі папросту не разумеюць, што такое нацыянальнае адраджэньне. Не даходзіць, і ўсё. Нехта з максімальным драматызмам крычыць па радыё пра манкуртаў і янычараў, а народ — ужо прывык, ужо прапускае міма вушэй.

Рух, які пачынаўся цалкам інтэнсіўна, што і прыцягнула да яго масу народу, у апошнія гады ўзьняў на шчыт формулу непрацыўленьня: "Хлопцы, не паддавайцеся на правакацыі". Гэта прывяло да таго, што ўся палітыка ўладаў Беларусі ператварылася ў адну суцэльную правакацыю. Так аб'ектыўна быў знойдзены спосаб перамогі над БНФ, прымірэнчая пазіцыя якога сталася недарэчнай у сітуацыі, поўнай бясправнасьці і беззаконьня. Фронт не ўтрымаў фронту. Між тым часу на адступленьне ўжо няма. Тут — або ісьці ў наступ, або сапраўды выбіраць паміж Канадай і Новай Зэландыяй. Пазіцыя "ляжачага ня біць" ужо ня выклікае спагады ані ў людзей, ані, тым больш, у прэзідэнта.

* * *

Ідзе парад Перамогі па беларускай зямлі. Нібы дзікае паляваньне караля Стаха, які прагне сьмерці сваіх ворагаў. Але памятаеце, гэта ж ня Стах, гэта ягоныя каварныя забойцы наладзілі прывіднае паляваньне, каб ад імя Стаха-героя забіць усіх добрых людзей.

Напэўна, я паставіў занадта шмат пытаньняў, зь іх складаецца "мая вайна". Можна пярэчыць, можна палемізаваць, але, на добры лад, трэба было б знайсьці адказы — рэальныя доказы таго, што мы гарантаваныя ад яе паўтарэньня.

# Надта нявыгадная справа

**Са сьледчым па асабліва важных справах пры Генэральным пракуроры Язэпам Бролішсам гаворыць карэспандэнт СВАБОДЫ.**



***Кар.*** **Язэп Язэпавіч, Вам даручылі расьсьледаваньне справы па эвакуацыі дэпутатаў з Дома ўраду, калі ў ноч з 11 на 12 красавіка ў гарадзкі аддзел міліцыі патэлефанаваў ананім і паведаміў, што ў будынку закладзена бомба. З таго дня прайшоў месяц. Як ідзе сьледзтва?**

*Я.Бролішс.* Трэба ўдакладніць, што справа за подпісам намесьніка генэральнага пракурора В.Кандрацьева была ўзбуджаная па двух артыкулах: па факце злоснага хуліганства, якім зьяўляецца званок зламысьніка, а таксама па факце перавышэньня ўлады работнікамі праваахоўных органаў у адносінах да групы дэпутатаў Вярхоўнага Савету.

Рэч у тым, што група дэпутатаў, нязгодных з прапанаваю прэзідэнта правесьці ўсенародны рэфэрэндум, у знак пратэсту аб'явіла 11 красавіка ў зале паседжаньняў парламанту палітычную галадоўку. На вячэрнім паседжаньні Вярхоўнага Савету галадаючыя зьвярнуліся да кіраўніка вышэйшага заканадаўчага органа М.Грыба з просьбай выклікаць доктара для мэдычнага абсьледаваньня, даць ім мінэральную ваду, некаторыя спальныя рэчы і прадаставіць тэлефон. Са слоў саміх дэпутатаў, усе патрабаваньні, за выключэньнем апошняга, былі выкананыя. Чым, трэба разумець, была дадзеная неафіцыйная згода на правядзеньне галадоўкі непасрэдна ў зале паседжаньняў. У той жа час дэпутаты накіравалі кіраўніку парламанту пісьмовую заяву, дзе выказалі занепакоенасьць, што паводле інфармацыі, якую яны маюць, супрацоўнікі праваахоўчых органаў плануюць прымяніць да іх сілу, у сувязі з чым яны папрасілі забясьпечыць ім ахову.

Вечарам 11 красавіка у адно з аддзяленьняў міліцыі паступіў тэлефонны званок. Ананім паведаміў, што ў Доме ўраду знаходзіцца бомба. Нібыта ратуючы жыцьцё дэпутатаў, якія знаходзіліся ў будынку ўраду, да галадоўшчыкаў прыбылі начальнік управы аховы дзяржаўных установаў М.Цесавец і начальнік управы аховы прэзідэнта В.Каралёў. Яны прапанавалі дэпутатам пакінуць залу паседжаньняў для правядзеньня работ па пошуку і ліквідацыі выбуховага ўстройства. Дэпутаты адмовіліся пакінуць залу паседжаньняў, прапанаваўшы сапэрам праводзіць абсьледаваньне памяшканьня ў іхнай прысутнасьці. Тады два кіраўнікі аховы ў прысутнасьці 15—20 чалавек у міліцэйскай і цывільнай форме спрабавалі прымяніць да дэпутатаў сілу. Жаданага выніку гэтыя дзеяньні не далі. Пасьля была атрыманая згода на правядзеньне сапэрамі работаў без эвакуацыі парламентараў. На працягу гадзіны абшуквалі памяшканьне, але ніякіх вынікаў гэта не дало. Гэта было засьведчана спэцыяльным актам, які падпісалі ня толькі сапэры, але і два дэпутаты Вярхоўнага Савету, якія знаходзіліся ў зале.

На допыце дэпутаты расказалі, што каля трэцяй гадзіны ночы ў залу паседжаньняў уварвалася больш за сотню чалавек у міліцэйскай, камуфляжнай і нейкай іншай спэцыяльнай форме (чорныя абляганочыя касьцюмы і маскі на тварах). Бальшыня зь іх былі ўзброеныя аўтаматамі і дубінкамі. Гэтыя людзі сталі насільна эвакуяваць дэпутатаў, наносячы пры гэтым удары ня толькі кулакамі, але і нагамі, прыкладамі зброі, дубінкамі. Дэпутатаў выкінулі з залы і пасадзілі ў міліцэйскія УАЗікі з кратамі на вокнах, а пасьля разьвезьлі іх у розныя месцы горада. Пяцёра дэпутатаў запатрабавалі ад кіроўцы адной з машын адвезьці іх да будынка рэспубліканскай пракуратуры, дзе зьвярнуліся да дзяжурнага пракурора з заявай аб узбуджэньні крымінальнай справы. Пазьней, выступаючы па рэспубліканскім тэлебачаньні, з аналагічнай просьбай зьвярнуўся да Генэральнага пракурора рэспублікі і прэзідэнт А.Лукашэнка.

***Кар.*** **Вы распавялі храналогію падзеяў па выніках допыту дэпутатаў. Відаць, сапраўднасьць іхных заяваў мог бы пацьвердзіць ці абвергнуць відэазапіс падзеяў, якія адбываліся ў Доме ўраду ў ноч з 11 на 12 красавіка. У першыя дні пасьля інцыдэнту А.Лукашэнка абяцаў паказаць яго па тэлебачаньні.**

*Я.Бролішс.* Часткова паказаньні дэпутатаў можа пацьвердзіць мэдычны агляд — 9 дэпутатаў прайшлі абсьледаваньне ў клініцы, якая абслугоўвае кіраўніцтва рэспублікі. Канчатковага заключэньня мэдыкаў пакуль няма, аднак магу заверыць, спасылаючыся на мой шматгадовы вопыт працы ў пракуратуры, што ў кожнага з тых, хто прайшоў агляд, ёсьць цялесныя пашкоджаньні пасьля ўдараў.

Што ж да відэазапісу, то пасьля заявы прэзідэнта аб гатоўнасьці яго паказаць, пракуратура зрабіла афіцыйны запыт ва ўсе магчымыя інстанцыі з просьбай прадаставіць пракуратуры відэазапісы для правядзеньня сьледзтва. Падобныя запыты, паводле заканадаўства, маюць абавязковы характар выкананьня. Пасьля рассылкі запытаў прайшоў ужо месяц, аднак ніякіх водгукаў на іх запыты мы не атрымалі.

Падчас сьледзтва ўстаноўленыя імёны двух апэратараў, якія рабілі здымкі. Адзін зь іх — экспэрт Маскоўскага раённага аддзелу ўнутраных справаў. Другі — супрацоўнік Управы аховы дзяржаўных установаў, якую ўзначальвае М.Цесавец. Запрошаныя для допыту, яны на словах пацьвердзілі інфармацыю, атрыманую раней ад дэпутатаў. Паведамілі, што рабілі здымкі кожны раз, калі ў залу паседжаньняў да галадоўшчыкаў заходзілі для перамовы прадстаўнікі спэцслужбаў. Апэратары расказвалі, што пасьля заканчэньня ўсіх падзеяў, іх запрасілі ў прыёмную прэзідэнта, дзе чалавек, які назваўся кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта, прапанаваў пакінуць відэазапіс з усім адзьнятым матэр'ялам на стале, што яны і зрабілі.

Праз некалькі дзён экспэрт з Маскоўскага РАУС, як асоба матэр'яльна адказная, атрымаў касэту назад. Яна аказалася размагнічанай. Апэратар жа службы М.Цесаўца паведаміў, што яму відэакасэты ніхто не вяртаў.

Пошукі відэазапісу на рэспубліканскім тэлебачаньні таксама не далі ніякіх вынікаў. Старшыня тэлерадыёкампаніі Г.Кісель у адказ на наш запыт адказаў, што відэакасэты з запісамі сапраўды некаторы час знаходзіліся ў рабочых мантажных кампаніі, дзе былі перапісаныя на прафэсійнай апаратуры і тэхнічна падрыхтаваныя для паказу па тэлебачаньні. Аднак пасьля правядзеньня ўсіх неабходных работаў касэты-арыгіналы разам з перазапісам былі вернутыя ў Адміністрацыю прэзідэнта.

За подпісам намесьніка генэральнага пракурора мы накіравалі паўторныя запыты з просьбай прадаставіць відэазапіс. Аднак адказу пакуль не атрымалі. Далей існуе магчымасьць, што сьледзтва можа толькі ўскладніцца, бо няма ўпэўненасьці, што захаваныя касэты-арыгіналы.

Няма адказу і яшчэ на адно пытаньне: якія падраздзяленьні былі выкарыстаныя для эвакуацыі дэпутатаў. Запыты, накіраваныя ў МУС, КДБ, Міністэрства абароны пакуль застаюцца без адказу.

***Кар.*** **Якія пытаньні ў гэтай справе патрабуюць на вашу думку дадатковых тлумачэньняў?**

*Я.Бролішс.* Пытаньняў дастаткова. Адно зь іх, чаму афіцэры-сапэры Грамадзянскай абароны, якія прымалі ўдзел у пошуках бомбы, адмовіліся ад запрашэньня пракурора пагаварыць, спасылаўшыся на тое, што для такой размовы ім неабходны асабісты дазвол камандуючага ўнутранымі войскамі рэспублікі В.Агальца. Патлумачу, што пасьля афіцыйнага запыту з пракуратуры такое "дабро" ад камандуючага было атрымана і размова ўсё ж адбылася. Знайшоўся ў сапэраў грамадзянскай абароны і акт абсьледаваньня залы паседжаньняў парламанту, якое праводзілася ў ноч з 11 на 12 красавіка з заключэньнем аб адсутнасьці бомбы.

У гэтым выпадку ў мяне, як у сьледчага, узьнікае пытаньне: навошта выкідваць людзей зь бясьпечнага месца, ды яшчэ прымяняючы сілу супраць асобаў, якія маюць дэпутацкую недатыкальнасьць? Калі ж сваю работу сапэры правялі няякасна і неабходна была дадатковая праверка, навошта падвяргаць небясьпецы жыцьцё яшчэ больш сотні супрацоўнікаў праваахоўчых органаў, якія былі ўведзеныя ў "замініраванае памяшканьне".

У любым выпадку некалькі дзесяткаў здаровых, трэніраваных хлопцаў было б дастаткова для таго, каб без асаблівых намаганьняў вынесьці дэпутатаў на сьвежае паветра, не наносячы ім шматлікіх пабояў.

***Кар.*** **У газэце "Правда" адзін з аўтараў выказаў сумнеў у аб'ектыўнасьці вядзеньня Вамі расьсьледаваньня. Ён бачыць прычыну ў тым, што Вы зьяўляецеся "убежденным сторонником национал-демократов не только здешних, но и литовских саюдистов".**

*Я.Бролішс.* З аўтарам гэтага матэр'ялу Алегам Сьцепаненкам я асабіста не знаёмы. Магу толькі сказаць, што кожны грамадзянін мае права на ўласны пункт гледжаньня. Каб удакладніць, магу сказаць, што хоць маё прозьвішча і заканчваецца на літару "с", да літоўскага Саюдзіса я ня маю ніякіх адносінаў, бо па нацыянальнасьці я — латыш, а не літовец. У Літве быў у службовай камандзіроўцы толькі адзін раз гадоў дваццаць таму, калі пра Саюдзіс яшчэ і гаворкі не было.

Любое расьсьледаваньне для мяне — справа прафэсійнай годнасьці.

## Чарга па “хлеб жыцьця”

**Парафіяльная рада касьцёла ў Берасьці зь мінулага тыдня арганізавала дабрачынную раздачу бясплатных абедаў.**

“Хлеб жыцьця” (так называецца гэтая акцыя) раздаюць тры разы на тыдзень. Людзей зьбіраецца даволі шмат.

Лявон МУХАВЕЦКІ

## У Бабруйску зарабляюць грошы на крыві

**Апошнім часам у Бабруйску сталі расьці чэргі на станцыі пералівання крыві.**

Донарства, паводле ацэнак галоўнага ўрача станцыі Марата Запрудзкага, усё больш становіцца для гараджанаў крыніцай папаўненьня сямейнага бюджэту. За 400 мілілітраў крыві донар атрымлівае грашовую кампэнсацыю ў памеры мінімальнай заробатнай платы.

*СІМ*

## Жыцьцё пакінуў у вагоне

**На памежнай зь Літвою чыгуначнай станцыі Гудагай падчас дагляду цягніка “Масква—Вільня” у купэ аднаго вагона памежнікі ўбачылі павешанага чалавека.**

Мяркуючы па пашпарце, гэта быў грамадзянін Літвы.

*БелаПАН*

## Аматар піва ўратаваўся

**Былы кандыдат у дэпутаты ад Партыі аматараў піва В.Дамброўскі зьбег з Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы ў Навінках, куды яго ўпяклі яшчэ 15 красавіка.**

Па зьвязаных прасьцінах Дамброўскі выбраўся праз акно на волю, дзе яго чакалі сябры з машынаю. Аднак, апынуўшыся на волі, кандыдат вырашыў адмовіцца ад далейшага ўдзелу ў выбарах — небясьпечная гэта справа. Паводле слоў сваякоў сп.Дамброўскага, аматар піва хаваецца цяпер па-за межамі Менска.

*БелаПАН*

## Танна і эфэктыўна

**Незалежная фінансавая кампанія “НФА-груп”, што знаходзіцца ў Берасьці, правяла аналіз рэкламы розных фірмаў і арганізацыяў.**

Першае месца ў сьпісе заняла “Дайнова-Брэст” за рэкламу “Мэлёдыя магутнасьці”.

Быў адзначаны яе невысокі кошт — і вельмі высокая эфэктыўнасьць.

Лявон МУХАВЕЦКІ



## У Жыровічах чакаюць “галоўнага паломніка”

**20 траўня штогод адбываецца паломніцтва вернікаў у Жыровіцкі манастыр, што паблізу Слоніма. У гэты дзень урачыста адзначаецца сьвята Зьяўленьня абраза Жыровіцкай Божай Маці.**

Чакаецца, што на сьвяточную багаслужбу прыедзе “галоўны паломнік” — прэзідэнт А.Лукашэнка. Да ягонага візіту рыхтуюцца ня толькі сьвятары, але і мясцовыя ўлады: актыўна беляць і фарбуюць памяшканьні, шаруюць падлогі, рамантуюць дарогі і інш.

Валодзя ЯНЧУК

## Наркатычны пратэз

**У Бабруйску работнікі праваахоўных органаў затрымалі інваліда 2-й групы.**

Пры вобыску ў ягоным пратэзе нагі знайшлі макавую саломку.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН



## Было ваша — стала наша

**100 расейскіх мытнікаў прыступілі ў сераду, 17 траўня, да работы на зьнешняй беларускай мяжы ў адпаведнасьці з пагадненьнем аб стварэньні мытнага саюзу, які заключылі Беларусь і Расея.**

Пра гэта паведаміў намесьнік старшыні Мытнага камітэту Расеі Уладзімер Мешчаракоў. Зь ягоных словаў, першая група расейскіх мытнікаў будзе месяц працаваць на беларускай мяжы.

Пасьля мяркуецца на працягу двух наступных месяцаў накіраваць у Беларусь яшчэ дзьве групы па 100 чалавек.

Паводле некаторых зьвестак, пасьля саміту, запланаванага на 25-26 траўня ў Менску, прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын возьме ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі зьняцьця ўнутраных межаў паміж Расеяй і Беларусяй у раёне Смаленска.

*ІНТЭРФАКС*




## Узбунтавалася “Купалінка”

**У чацьвер 18 траўня работніцы Салігорскай трыкатажнай фабрыкі “Купалінка” выставілі пікеты і не пускалі на прадпрыемства кіраўніцтва.**

Ужо пяць месяцаў трыкатажніцы не атрымліваюць заробку з прычыны сістэматычнага прастою вытворчасьці. Тым часам ІТРаўцы штомесяц маюць неблагую зарплату.

Швачка фабрыкі М.Піліпавец сказала карэспандэнту СВАБОДЫ, што тых грошай, якія разпораз выплочваюць работніцам, хапае толькі на хлеб і малако. Яна кажа, што яе малодшая дачка-першакласьніца ад недаяданьня часта траціць прытомнасьць.

Валодзя ЯНЧУК

## Зноў генэральскае вясельле

**У Савеце бяспекі зацікавіліся некаторымі дэталямі вясельля сына намесьніка міністра абароны А.Хрыстафорава, якое праходзіла ў ваенным гарадку Масюкоўшчына, што ў сталіцы.**

У прыватнасьці, плануецца правесьці фінансавую праверку гаспадарчага аддзелу Лепельскага ваеннага санаторыя, адкуль прывозілі прадукты на вясельны стол, а таксама Менскі ваенгандаль, работнікі якога абслугоўвалі імпрэзу. Акрамя таго, кантралёрам трэба будзе высьветліць, ці поўнасьцю аплаціў генэрал арэнду пяці аўтамабіляў “Волга” і некалькіх дзесяткаў армейскіх “УАЗаў”, на якіх развозілі гасьцей. Цікава, што сын генэрала Хрыстафорава працуе сьледчым ваеннай пракуратуры, а сын ваеннага пракурора А.Глюкава — у міністэрстве абароны.

*СІМ*

### Субота, 27 траўня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 Эканамікст
8.10 Люстэрка Сі-Эн-Эн
8.25 Скрыжалі. Андрэй Тадэвуш Касьцюшка
8.30 “Лулу - анёл кветак”
9.00 “Мой сьвет”
9.25 Здароўе
9.55 Скарбы. Орша: помнікі даўніны
10.15 Барысаўскі завод мэдычных прэпаратаў
10.30 “Ты памятаеш нашыя сустрэчы...” Фільм-канцэрт
10.55 ПІФ-ПАФ, забаўляльная праграма
11.20 “Крок”. “Жывая зямля”
11.40 Фільмы — удзельнікі тэлефоруму “Экасьвет-95”.
12.20 “Беларускі дом”
13.15 “Чацьвёртае вымярэньне”
14.05 “Бірмінгемскі кірмаш”
14.20 “Крок”
15.20, 16.15 “Творцы”. Максім Лужанін
15.45 Шматгучча
16.40 “Пасьля 2000 года”
17.05 “Трапічная сьпёка”, м/ф, с. 3
18.05 Телекрама
18.15 Зорная ростань
19.10 Клаксон
19.25 Фінансавы час
19.40 Суботнік. Гумарыстычная праграма
20.00 Міжнародныя спартовыя навіны
20.35 Калыханка
21.00 Рэзананс
21.45 “Нов і К”—топ-рэвю
22.25 “Расейскі транзіт”, м/ф, с. 1
23.25 Бон тон
23.55 Пад купалам Сусьвету
0.05 Шоў-прагноз
0.10 Відзьма-нявідзьма

**1 канал**

6.30 Тэлераніца
7.45 Слова пастыра
8.00, 14.00, 0.55 Навіны
8.20 Лега-го
8.50 “Сакрэты майго лета”
9.20 Ранішняя пошта
9.50 Смак
10.05 Здароўе
10.40 Правінцыя
11.10 “Бабіна царства”, м/ф
12.55 Люстэрка
13.25 Вялікія гонкі
14.15 “Вяртаньне”, д/ф
15.45 У сьвеце жывёл
16.15 Шчасьлівы выпадак
17.00, 20.00 Час
17.25 Сьмехапанарама
18.10 “Удар галавой”,кінакамэдыя (Францыя)
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 “Рэкет”, с. 3
21.35 Што? Дзе? Калі?
22.45 Прыз Монтэ-Карла—95. Фэстываль зорак сусьветнай эстрады

**Канал “Расея”**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Зоркі гавораць
7.30 Ад вінта
7.45 Падоўжанка
8.00 Пілігрым
8.45 Парламанцкі тыдзень
9.30 Сем нотаў у цішыні
10.00 Зваротны адрас
10.45 Футбол бязь межаў
11.25 Залатая шпора
11.55 Вашае права
12.10 Сьпяваюць драматычныя акторы
12.40 Сялянскае пытаньне
13.20 De facto
13.35 “Натарыюс з Шатанёф”, м/ф, ч. 1
14.25 Сьвята штодня
14.35 Момант ісьціны. Б.Акуджава
15.55 Футбол. Чэмпіянат Расеі. “Дынама”(Масква)-"Тэкстыльшчык" (Камышын)
17.55 Не разьвітаюся з “Камсамолкай”
19.25 “Вельмі верная жонка”, м/ф
20.50 Аншлаг і К°
21.45 Мультфільм для дарослых
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.40 Зорны дождж

**Санкт-Пецярбург**

6.30 “Хрыстос ва ўсім сьвеце”
7.00 Добрай раніцы
8.30 Жыўцом... Алег Ганчароў
10.00 Стыль жыцьця
10.15 “Еўрапейскі калейдаскоп”
10.45 “Мая музыка”. Л.Агуцін
11.30 “Расейская нацыянальная бібліятэка”, т/ф
11.55 Да 90-годзьдзя Цусімскай бітвы. “Паўстане ў славе”
12.40 Тэлелекар
13.00 “Тэст”. Тэлевізійная служба працаўладкаваньня
13.15 “Пётр Першы”, м/ф, с. 1
15.00, 18.30, 21.40 Інфарм-TV
15.25 “Пётр Першы”, с. 2
17.00 “Паласаты хіт”
17.45 Эканоміка і мы
18.10 Вялікі фэстываль
18.50 Пецярбург. Расея. Лётнае надвор’е
19.10 “Дзень добры, гэта я”, м/ф, с. 2
20.20 Пецярбургскі ангажамэнт. Фінал
21.20 “Наўздагад”. Галоўны рэдактар часопіса “Нява” Б.Нікольскі
22.15 “Ня хочаш — не глядзі”
23.15 Сьвята апошняга званка. “10000 зорак”
24.00 Крышталёвы ключ. Фэстываль музычных кліпаў
0.20 “Замак Пампон Руж”, м/ф

### Нядзеля, 28 траўня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 Фільмы — удзельнікі Міжнароднага тэлефоруму “Экасьвет-95”
8.20 Спартовая пляцоўка
8.45 “23 градусы 40 мінут на ўсход ад Грынвіча”
9.15 Студыя “Калыханка”. “Уся рэч у капелюшы”
9.45 “Конан і его маладыя ваяры”, мультсэрыял (ЗША), с. 3
10.15 Урокі Н.Наважылавай
10.45 Тураб’ектыў
11.05 “Усё нармальна, мама”
11.35 У сьвяты і ў будні
12.05 Франтавы альбом
12.10 Паміж намі, жанчынамі
12.40 Нядзельны канал дзіцячай творчасьці “Вакно”: “Класіка двароў”. “Белая каралева”. Літаратурная гульня
13.40 Аўта-парк
13.55 “Сітуацыя”. Амаль дэтэктыўная віктарына
14.45 “Куток Радзімы. Іўе...”, д/ф
15.45 Радыётэатру “Вясёлы эфір” - 30 гадоў
16.30 Таямніцы сьвету. “Экспэдыцыя”. (Вэнэсуэла)
17.00 SOS
17.05 Тэлекрама
17.15 “Крок”
17.40 Стыль
18.00 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. “Дынама-93"(Менск) - ”Дынама" (Брэст), 2-і тайм
18.50 Кампутаровы палігон
19.20 Абібок
19.40 Мультфільм для дарослых
19.50 Шоў-прагноз
20.00 Навіны
20.35 Калыханка
20.55 “Карамболь”. Ток-шоў з удзелам Вячаслава Бутусава
21.30 “Сінэма”: “Пяшчотная міласэрнасьць”, м/ф (ЗША)
23.10 Бон тон
23.40 “Званы госьць”. А.Пятрэнка
0.10 Пад купалам Сусьвету

**1 канал**

6.30 Тэлераніца
7.30 Алімпійскі ранак
8.00, 14.00, 23.15 Навіны
8.30 Раным-зрана
9.00 Мультфільм
9.15 Пакуль усе дома
9.45 Ранішняя зорка
10.30 Служу Расеі
11.05 Сусьветная геаграфія
11.55 Уся Расея
12.25 “Вясёлка”
12.55 Пад знакам “пі”
13.40 Спорт падчас абеду
13.55 Жывое дрэва рамёстваў
14.20 Музыка ў эфіры. Хасэ Карэрас
15.10 Клуб падарожнікаў
16.00 Амэрыка з М.Таратутам
16.30 “Флона на чароўным востраве”
17.00 Час
17.20 Суфлёр
18.00 Сам-насам
18.25 Залаты шлягер
19.10 КВЗ-95
21.00 Нядзеля
21.45 “Рэкет”, с. 4
22.40 Каханьне зь першага погляду

**Канал “Расея”**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Зоркі гавораць
7.30 Першы дубаль
7.45 Залаты ключык
8.00 Сусьветная вёска
8.30 Вялікі хакей
9.10 Ніхто не забыты
9.15 Добрай раніцы, Эўропа
9.45 Аты-баты...
10.15 Расейскае лато
11.00 “Дом на Трубнай”, м/ф
12.25 Кінаафіша
12.40 Шэсьць сотак
13.20 “Натарыюс з Шатанёф”, с. 2
14.10 Лепшыя гульні НБА
15.10 Сьвята штодня
15.25 “Зора”, м/ф, с. 5—6
16.25 “Формула-1". Гран-пры
18.45 Кіно ў чэрвені
19.25 “Палёты ў сьне і наяве”
21.10 Каробка перадач
21.25 У Ксюшы
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.40 Поўня

**Санкт-Пецярбург**

6.00 Гэта ваш дзень.
6.30 Гаючае слова
7.00 Добрай раніцы
8.30 Жыўцом...
10.00 Стыль жыцьця
10.15, 22.20 “Паглядзім”
10.30 Рандэву зь Ю.Антонавым
11.00 Нядзельны лабірынт
12.35 “З усьмешкаю добрай”, ф/к
13.15 Юбілей Смольнага
14.00 Віртуёзы 2000
14.30, 19.30, 21.40 Інфарм-TV
14.40 “Пляц Лебядзінай песьні”
14.50 Слова - дэпутатам
15.20 “Пецярбургскі час”, д/ф
15.50 Залаты ключ
16.10 Кідайка
16.50, 22.10 Уік-энд з дэтэктывам
17.20 “Стадыён”
17.30 Чэмпіянат Італіі па футболе
19.50, 23.35 “Інтэрдзевачка”, м/ф, с. 1—2
22.35 Адамаў яблык



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 18.5.95 (6.00). Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3). © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 93 000